


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 снежня 2001 года
№ 50 (347)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна



### Іосіф і Яўгенія – Праведнікі

МЯДЗЕЛ. Настаўнік Сырмежскай школы **Бярнард Пакульніцкі** прымаў у Мінску з рук пасла Ізраіля дыплом і медаль Праведнікаў народаў свету. Не за сябе, а ў памяць сваіх бацькоў – **Іосіфа і Яўгеніі Пакульніцкіх**, якія жылі на Астравеччыне і ў гады вайны далі прытулак яўрэйскай дзяўчынцы з віленскага гета і савецкаму салдату. Дзяўчынку выдавалі за сястру маці, у вёсцы яе і перахрысцілі па-свойму: звалі **Чэсяй**. Пражыла яна ў беларускай сям'і да заканчэння вайны. Потым стала доктарам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Кінатэатры заданне выканалі

ВАЛОЖЫН. Кіна-відэапрадпрыемствы раёна выканалі сваё гадавое заданне за 11 месяцаў.

Сёлета валожынскі кінатэатр "Юнацтва" і 15 сельскіх кінаўстановак наведала 144,4 тысячы гледачоў. Летась за той жа перыяд было менш на 8 тысяч. Білетаў прадалі на суму 22,854 мільёна рублёў.

За 11 месяцаў было 36 кінапрэм'ер, паказалі 15 беларускіх фільмаў розных гадоў. У тым ліку, два новыя: "Зорка Венера" і "Як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію".

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Стопрацэнтная англічанка

МЯДЗЕЛ. Прайшлі раённыя прадметныя алімпіяды сярод школьнікаў. Сярод іх знайшлася і такая вучаніца, якая выканала заданне на 100%.

Гэта **Наталля Галамызда**, яна вызначылася ў англійскай мове. Вучыцца Наталля ў СШ №2 Купы. Адтуль і больш за ўсё вучняў (7) паедзе на абласныя алімпіяды. А ўсяго з раёна – 18.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Бясплатны праезд на аўтобусах

СМАРГОНЬ. Райвыканком, па хадайніцтве аддзела сацыяльнай дапамогі, увёў бясплатны праезд у гарадскіх аўтобусах для бацькоў, у якіх ёсць дома ляжачыя дзеці-інваліды.

Такіх 18 чалавек. Яны маюць спецыяльныя пасведчанні.

**Тарэса КУМІШЧА.**

### Зарэзалі пенсіянера

ВІЛЕЙКА. На мінулым тыдні ў прыватным доме зарэзалі пенсіянера 1922 года нараджэння. Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрымалі двух чалавек. Вядзецца следства.

**Наталля МІХАЙЛАВА.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 15 снежня

**Мінск**
-14 – -11°С (уначы)
-8 – -5°С (удзень)



**Вільня**
-14°С (уначы)
-5°С (удзень)



Нядзеля, 16 снежня

**Мінск**
-16 – -14°С (уначы)
-7 – -3°С (удзень)



**Вільня**
-14°С (уначы)
-1°С (удзень)



# Бальніцы патрэбныя ін'екцыі

**ВІЛЕЙКА. Да 1 верасня 2002 года ў кожным падраздзяленні раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання будуць абсталяваныя і адрамантаваныя спецыяльныя палаты для ветэранаў вайны і інвалідаў.**

Райвыканком падрыхтаваў адпаведнае рашэнне. Там зазначана, што ў раёне праводзіцца работа па медыцынскім абслугоўванні ветэранаў і інвалідаў, але ёсць і праблемы. Напрыклад, у аказанні стаматалагічнай дапамогі. У сельскай мясцовасці нерэгулярна праходзяць медагляды і абслугоўванне людзей.

Райвыканком вызначыў 14 палат у раённай і сельскіх бальніцах і кожную замацаваў за прадпрыемствам.

Намеснік старшыні райвыканкома **Мікалай Кароткі**:

– Ініцыятыва належыць райвыканкому сумесна з РТМА. Бо такая палітыка дзяржавы – падтрымаць такіх людзей. А раённы бюджэт на датацыі. Таму мы папрасілі прадпрыемствы зрабіць рамонт палат. Ці будзе гэта накладна для іх? А ў нас жыццё такое. Кіраўнікі прадпрыемстваў нас разумеюць. Вось у чэрвені мы сабралі кіраўнікоў чатырох прадпрыемстваў: камбікормавы завод, "Зеніт", меблевая фабрыка, "Буддэталі". І на працягу двух месяцаў зрабілі нармальны рамонт у радзільным аддзяленні. Гэта ім абышлося ў 35 мільёнаў рублёў. Нягледзячы на тое, што ў рашэнні тэрмінам заканчэння рамонту зазначана 1 верасня, рамонт скончаць у лютым.

Пасля прыняцця рашэння мы сабралі кіраўнікоў прадпрыемстваў, і яны сказалі, што зробяць рамонт на працягу двух месяцаў. Умовы такія: зрабіць якасны рамонт, і каб у кожнай палаце былі халадзільнік і тэлевізар.

Палата ў тэрапеўтычным аддзяленні замацаваная за ААТ Ашчадны банк "Беларусбанк".

Гаворыць намеснік дырэктара **Аляксандр Абрамаў**:

– Мы падтрымліваем ідэю адрамантаваць бальнічныя палаты. Гэта пайшло б на карысць людзям. А для нас у тым выпадку, калі мы будзем праводзіць рамонт сваімі сіламі, са сваімі матэрыяламі, гэта не будзе вельмі дорага. Але адно пытанне: мы не з'яўляемся юрыдычнай асобай. Фінансавымі пытаннямі займаецца галаўны банк. І яму мы будзем накіроўваць хадайніцтва. Але ў любым выпадку гэта нашыя праблемы – выканаць усе работы ў тэрмін.

Не ўсім прадпрыемствам удасца без праблем выканаць рашэнне райвыканкома.

Дырэктар Вілейскага хлебазавода **Анатоль Сяргей**:

– Нас прымушаюць гэта рабіць. Што зробіш? Прадпрыемства больш-менш стабільнае, хаця мы для сваіх патрэбаў не можам купіць печку, а рэнтабельнасць складае 3–4%. Мяркую, што рашэнне райвыканкома не адаб'ецца моцна на бюджэце прадпрыемства. Але каму хочацца аддаваць свае грошы? Сабе на рамонт не хапае, а тут выклікалі і гавораць: "Рабіце!".



Фота IREX\ProMedia.

**Нашай медыцыне даўно пастаўлены дыягназ – хранічнае недафінансаванне.**

Дырэктар Вілейскіх электрасетак **Анатоль Рогач**:

– Мы не самастойнае прадпрыемства, і грошы нам пералічваюць з Мінска. Толькі па Вілейскім раёне спажыўцы вінаватыя за электраэнергію 4,5 мільярда рублёў. На рамонт палаты трэба пералічыць больш за 2,5 мільёна рублёў. З Мінска гэта рабіць катэгарычна адмаўляюцца. Я падтрымліваю рашэнне райвыканкома, але на гэта няма грошай.

**Вольга ПІЛІПЕНКА,**
**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Экспрэс-апытане валожынцаў

# Вы задаволеныя работай аўтапарка?



**Любоў Станілевіч, пенсіянерка:**
– Я не карыстаюся грамадскім транспартам, таму не магу нічога сказаць.



**Алег Кавецкі, вучань:**
– Незадаволены. Часты адмены рэйсаў, у тым ліку, і на Маладзечна.



**Наталля Янцэвіч, вучаніца:**
– Мне не падабаецца. Дрэннае абслугоўванне. Асабліва, груба размаўляюць, калі да іх тэлефануеш.



**Юрый Тамашэвіч, будаўнік:**
– Нядрэнна працуе. Адзінае не задавальняе, што няма рэйсаў на Ашмяны. Цяжка дабірацца да цешчы, якая жыве пад Ашмянамі.



**Сяргей Бараноўскі, апаратчык:**
– Ёсць праблемы. Я жыву ў вёсцы Рум, што ў 15 кіламетрах ад Валожына. Праз яе аўтобус ходзіць 2 разы на тыдзень. Дабіраюся на работу як атрымаецца.



**Анатоль Давідовіч, вадзіцель:**
– На аўтобусе езджу рэдка. У асноўным, на Маладзечна ці на Мінск. Часцей карыстаюся машынай. Заўваг па рабоце аўтпарка ў мяне няма.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

# Калгасны рынак выпраўляецца

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду на калгасным рынку прадавалі маркіраваныя курыныя яйкі. Хаця яшчэ не паўсюдна, але факт такі быў.**

Адміністрацыя рынку адрэагавала на заклікі Маладзечанскай арганізацыі абароны спажыўцоў і публікацыю ў "РГ" "Маладзечанскія яйкі не маюць маркі".

Старшыня арганізацыі абароны спажыўцоў **Уладзімір Клешч** гаворыць, што за час кіравання рынкам **Аляксеем Уваравым** там шмат зроблена: паставілі павільёны для гандлю рыбай і салам, добраўпарадкавалі тэрыторыю рынку, уваход на яго і пад'язныя шляхі.

Але яшчэ ёсць над чым працаваць – неабходна зрабіць выезд з рынку, вынесці за межы рынку райспажыўтаварыства свіней, курэй, цялят. Зрабіць для іх асобны рынак. Павінны з'явіцца на рынку асобныя малочны павільён, стойка для гандлю мёдам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Калгасны рынак. Там ужо прадаюць маркіраваныя яйкі, але побач з іншымі прадуктамі. А гэта парушэнне правілаў.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6 снежня | 13 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1546,00 руб. | 1560,00 руб. |
| Нямецкая марка | 705,26 руб. | 713,79 руб. |
| Літ | 386,56 руб. | 390,07 руб. |
| Расійскі рубель | 51,64 руб. | 51,86 руб. |
| Злоты | 383,43 руб. | 385,19 руб. |
| ЕЎРА | 1379,42 руб. | 1396,04 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1560 – 1580 руб. | 1570 – 1590 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 5.12 | 12.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2480 | 2480 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7700 | 7200 |
| Сасіскі, 1 кг | 3280 | 3280 |
| Селядзец, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 550 |
| Грэчка, 1 кг | 440 | 440 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1300 | 1350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | 950 |
| Маянэз, 200 г | 310 | 310 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | 1700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 550 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 200 |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1200 | 1100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1500 | 1400 |
| Масла, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Тварог, 1 кг | 1400 | 1600 |
| Малако, 1,5 л | 600 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1800 |
| Бульба, 1 вядро | 1800 | 1900 |
| Морква, 1 кг | 300 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 450 | 400 |

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

# Падрыхтоўкі не трэба

МАЛАДЗЕЧНА. Калі вы маеце права на кіраванне трактарам і жадаеце атрымаць вадзіцельскае пасведчанне катэгорыі "А", "В", то вам не патрэбная дадатковая падрыхтоўка. Ва ўказаным выпадку, пры пацвярджэнні кіравання трактарам не менш апошніх трох месяцаў, прымаецца практычны экзамен на запытваемую катэгорыю транспартнага сродку, а ў выпадку яго непацвярджэння – і тэарэтычны экзамен.

З неабходных дакументаў у міжраённае рэгістрацыйнае экзаменацыйнае аддзяленне (МРЭА) ДАІ прадастаўляюцца:

- пашпарт асобы;
- заява ўстаноўленай формы;
- вадзіцельская картка;
- даведка аб непазбаўленні вадзіцельскіх правоў з мясцовага ДАІ;
- даведка-пацвярджэнне з Дзяржтэхнагляду аб выдачы пасведчання трактарыста;
- медыцынская даведка ўстаноўленага ўзору аб годнасці да кіравання адпаведнымі катэгорыямі транспартных сродкаў;
- квітанцыя зберbegin банка аб уплаце ўстаноўленых збораў: за вадзіцельскае пасведчанне (8700 рублёў), камп'ютэрныя паслугі (400 руб.), экзамен па правілах дарожнага руху (400 руб.), экзамен па ваджэнні аўтамабіля (600 руб.), ваджэнні матацыкла (400 руб.);
- ксеракопія пасведчання трактарыста і талона да яго (з абодвух бакоў) і іх арыгіналы;
- для індывідуальных уладальнікаў: тэхнічны пашпарт транспартнага сродку, які належыць на праве асабістай уласнасці, або даверанасць на права кіравання ім, або пасведчанне аб праве агульнай уласнасці на транспартны сродак, пры гэтым даверанасць або пасведчанне аб праве агульнай уласнасці прад'яўляецца разам з рэгістрацыйнымі дакументамі на транспартны сродак адпаведнай катэгорыі;
- для працуючых вадзіцеляў – завераная выпіска з працоўнай кніжкі і даведка з месца работы з указаннем тыпу і нумарнога знака замацаванага транспарту;
- адна фатаграфія памерам 3,5х4,5 з белым вугалком.

Прыём грамадзян здзяйсняецца ў ДАІ Маладзечна, вул. Прафсаюзная, д. 1, каб. 1 у прыёмныя дні: чацвер, пятніца з 8-30 да 10-30; субота – з 8-00 да 10-00.

**Валерый ЛУЖЫНСКІ, старшы дзяржаўтаінспектар МРЭА ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.**

■ ДАРОГІ

# Гісторыя аднаго незвычайнага жыцця

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён нарадзіўся ў 1974 годзе. Яго з'яўлення чакалі ўсе, бо ён павінен быў вырашыць шэраг праблем. І ён прыйшоў: каля 270 метраў у даўжыню, 17 метраў у шырыню, больш за 6 метраў у вышыню і з вялікай грузападымальнасцю. Пуцеправод па вуліцы Віленскай у свой час быў патрэбны гораду, як чалавеку паветра. Прыгадвае старажыл Маладзечна Аляксандр Мазанік:**

– Раней на гэтым месцы карысталіся звычайным пераездам цераз чыгунку. Але было вельмі нязручна. Тады даволі часта хадзілі цягнікі, і машынам, якія прыязджалі з Мінска на швейнае прадпрыемства "Бярозка" (а іх было тады шмат), даводзілася стаяць у доўгіх чэргах па абодва бакі чыгункі. Трэба было шукаць выйсце.

І яго знайшлі. Пабудавалі мост, які размясціўся над пераездам і даў прамы, без перашкодаў, шлях аўтамабілям у сталіцу.

Час ішоў. Мінула крыху больш за 10 год, і пуцеправод запатрабаваў абследавання, каб атрымаць (або не атрымаць) дазвол на далейшую эксплуатацыю і, калі трэба, залячыць пашкоджанні. У чэрвені 1986 года Беларускі політэхнічны інстытут узяўся за справу і правёў абследаванне з выпрабаваннем. Аказалася, што "канструктыўныя элементы пуцеправода маюць шэраг дэфектаў, якія не зніжаюць грузападымальнасць і даўгалецце пуцеправода". А жыллёва-камунальнай гаспадарцы Маладзечна рэкамендавалася на працягу 1987–88 гадоў выканаць рамонтныя работы, указаныя ў падрыхтаваным рэфераце. Ніжэй было напісана: "Рэжым эксплуатацыі ўсталёўваецца тэрмінам на 10 год да 1996, пры ўмове выканання рамонтных работ".

Работы праводзіліся, і ў "хуткім" часе пуцеправод "праматаў" яшчэ адзін дзесятак. Цяпер ён ужо патрабаваў не проста абследавання, а капітальнага рамонту. У 1997 годзе, што на год пазней, чым павінна было быць, ВА "Камунальнік" звярнулася да аб'екта і за наступныя яшчэ два гады правяло поўнае даследаванне тэхнічнага стану пуцеправода. У пачатку 1999 года, згодна з апошнімі вынікамі абследавання, мінскае дзяржаўнае праектнае прадпрыемства "Белгіпрадар" склала каштарыс па капітальным рамонце. Як правіла, работа на такіх аб'ектах праводзіцца з вясны па восень. Наступныя два леты мост рамантавалі. А бліжэй да зімы 2000 года ўсе работы спыніліся, і, як цяпер аказалася, не маюць пакуль далейшага працягу.

Зразумела, што на пуцеправодзе яшчэ не ўсё зроблена. Паўстае пытанне, у якім стане мост і ці не пагражае ён тым, хто карыстаецца яго паслугамі? Адказ знайшлі ў намесніка старшыні выканкома **Яфіма Ідэльчыка**:

– Адразу хачу вас запэўніць, што сітуацыя там далёка не аварыйная. Работы будуць весціся ў наступным годзе.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ЗАРПЛАТА

# Ракіроўка ў настаўнікаў і медыкаў

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1-га студзеня 2002 года зменяцца тэрміны атрымання заработнай платы работнікамі адукацыі і медыцыны.**

Медыкі будуць атрымліваць зарплату з 4 па 10 число кожнага месяца, а работнікі адукацыі – з 11 па 17. Сёлета існуе адваротная сітуацыя. Ініцыятарам "ракіроўкі" стаў прафсаюз медыцынскіх работнікаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫСТАЎКІ

# 200 кантрактаў «Івкана»

**ВАЛОЖЫН. Каля 200 кантрактаў на пастаўку салодкай прадукцыі ў розныя рэгіёны рэспублікі заключыла Івянецкая кандытарская фабрыка – ААТ "Івкан".**

Гэта адбылося падчас выстаўкі БелЭКСПА-2001, якая прайшла ў Мінску. Валожынцы завезлі туды больш за 100 відаў прадукцыі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# Новы дырэктар у Каранях

**СМАРГОНЬ. У канцы лістапада новым дырэктарам агрэгатнага завода, што ў Каранях, прызначылі Канстанціна Сароку. Раней ён працаваў на Мінскім трактарным заводзе намеснікам дырэктара па вытворчасці.**

Прапануем вашай увазе інтэрв'ю нашага пазаштатнага карэспандэнта **Ірыны Ясінскай**, якой удалося пагаварыць з Канстанцінам Сарокам.

**– На Смаргонскім агрэгатным заводзе (САЗ) шмат праблем – гэта вас не спыніла?**

– За маю практыку не было такой работы, каб без цяжкасцяў. На мой погляд, праблемы ёсць заўсёды і ўсюды, і калі адна вырашаецца, то адразу ж паўстае іншая. Таму цяжкасцяў я не баюся.

**– На заводзе ідзе скарачэнне рабочых месцаў. З чым гэта звязана?**

– Скарачаюцца месцы інжынерна-тэхнічных спецыяльнасцяў, таму што іх колькасць павінна быць на прадпрыемстве аптымальная. Чалавек павінен прыходзіць на работу і працаваць, а не сядзець склаўшы рукі. Працаваць так, каб затым атрымаць за гэта нармальныя грошы.

**– У гэтым годзе, нягледзячы на цяжкае фінансавае становішча, на заводзе быў адкрыты новы цэх. Які яго далейшы лёс?**

– Адкрыццё цэха звязанае з выкарыстаннем вытворчых плошчаў САЗа з мэтай павелічэння аб'ёмаў вытворчасці пры дапамозе Мінскага трактарнага завода. Цяпер тэхнічныя службы працуюць над падрыхтоўкай лініі па вырабе дэталяў каробкі перадач, дэталяў навяснога абсталявання на міні-тэхніку. Мы павялічым абёмы вытворчасці да 1 мільярда рублёў у месяц, калі асвоім іх выпуск у 2002 годзе.

**– Што, на ваш погляд, перашкаджае заводу трымацца на плыву?**

– Па-мойму, неабходна было асвойваць вытворчасць дэталяў, якія падтрымліваліся МТЗ, па-другое, ёсць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, пра якія я ўмаўчу. Акрамя таго, вялікай праблемай для завода з'яўляецца кацельня. Даўгі па ёй вісяць з 1993 года. А ўласных абаротных сродкаў у завода няма. Ёсць крэдыторская запазычанасць, а гэта дрэнны паказчык для прадпрыемства.

**– Што дапаможа заводу "выплысці"?**

– Без падтрымкі Мінскага трактарнага завода "выплысці" немагчыма. Па кацельні прымалася шмат разнастайных рашэнняў, але ўсе яны не далі вынікаў. У нас ёсць прапанова па кацельні, і мы працуем над ёй. У другой дэкадзе снежня павінна адбыцца нарада па пытанні лёсу кацельні з удзелам усіх зацікаўленых бакоў, ад гэтага будзе залежаць і лёс завода.

**– Якія ў вас планы і перспектывы?**

– У бліжэйшы час плануецца давесці да аптымальнага ўзроўню колькасць інжынерна-тэхнічных рабочых і падняць заработную плату да 100–150 тысяч рублёў. Я лічу, што ў завода ёсць будучае, і з дапамогай калектыву мы зможам рашыць задачы, што стаяць перад заводам.

### Даведка «РГ»

Канстанцін Сарока нарадзіўся 2 жніўня 1957 года ў Клімавічах Магілёўскай вобласці. У 1987 годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, з'яўляецца слухачом другога курса Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Працоўную дзейнасць пачаў на Мінскім трактарным заводзе ў 1974 годзе токарам механічнага цэха.

### Сакрэты... ад газеты

**Ад рэдакцыі.** Мы хацелі ўдакладніць некаторыя факты з жыцця дырэктара, але ён адмовіўся размаўляць па тэлефоне. Нават элементарныя пытанні: хто прапанаваў яму пасаду дырэктара, чаму ён вырашыў пераехаць са Смаргоні ў Мінск – па яго словах, аказаліся для яго складанымі.

 



■ ЭКАЛОГІЯ

# Краявіды Маладзечна

**Маладзечна. Найбольш старажытным краявідам, што захаваўся ў горадзе, з'яўляецца храмавы комплекс маладзечанскай царквы. У мінулым тут, на Старым Месце, быў цэнтр перакрыжавання гандлёвыіх шляхоў. Адсюль і пачалося развіццё Маладзечна як мястэчка, а потым і гарадскога паселішча. Але першыя гарадскія краявіды ўзніклі не тут.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Маладзечна, вуліца Віленская. Гэтыя два дамы служаць узорам самага старажытнага тыпу забудовы ў горадзе.**

Дзесьці 10–12 тысяч год таму на тэрыторыі Маладзечна, як і па ўсёй Беларусі, былі балаты і лясы. Сёння цяжка выявіць іх суадносіны ў межах гарадскога асяроддзя, але для Беларусі на 90% лесапакрытай плошчы прыпадала 10% балатоў. Сярод балатоў поймы Ушы і ўзнік Маладзечанскі замак. Гэта быў першы прыродна-антрапагенны комплекс ці гарадскі краявід. Кампанент прыроднага асяроддзя тут быў зменены нязначна: часткова асушаныя глебы, з'явіліся пабудовы самога замка, абнесеныя трохметровым валам і акружаныя абвадным глыбокім ровам з вадою. За ім размяшчаліся менш значны вал з валунамі ў аснове і сістэма драўляных умацаванняў. Усё гэта ўпіралася ў навакольныя балаты, якія функцыянальна ўваходзілі ў краявід замка, утвараючы яго прыродныя ўмацаванні. Пасля таго, як замак быў разбураны падчас руска-французскай вайны 1812 года, краявіды Ушы пачалі нагадваць сучасныя, але канчаткова свой лугава-паркавы воблік набылі ў сувязі з меліярацыяй рэчышча ў 50-я гады XX стагоддзя.

Найбольш старажытным тыпам забудовы Маладзечна з'яўляецца прыватная малапавярховая забудова з садамі і агароджамі. Нават сёння пад імі знаходзіцца больш за 30% гарадской тэрыторыі. Па ўзроўні змянення прыроднага кампаненту яны аказвалі вялікі ўплыў на прыродныя краявіды азёрна-балотнай нізіны праз асушэнне глебаў і частковую змену воднага рэжыму. Гістарычна гэтыя краявіды фарміраваліся ў межах паўночнай часткі горада: ля царквы і станцыі. Прыкладам такой забудовы могуць служыць два дамы па вуліцы Віленскай – прыклад архітэктуры Маладзечна канца XIX – пачатку XX стагоддзя.

Развіццё чыгуначнага транспарту напрыканцы XIX стагоддзя прывяло да ўзнікнення ў горадзе новага тыпу краявідаў – транспартна-магістральнага. Сёння ён прадстаўлены ў дзвюх формах: насып з рэйкамі самой чыгункі, што рассякае горад на часткі, і комплекс чыгуначнага вакзала, дзе лінейныя формы краявіду набылі значнае прасторавае размеркаванне.

Самая шчыльная забудова ў горадзе прымеркаваная да былых залесеных абшараў узгоркава-марэннай раўніны ў паўднёвай частцы горада. Найбольшыя змены прыроднага кампаненту тут звязаныя з прыдатнымі для будаўніцтва ўмовамі і наяўнасцю магутных тэхнічных сродкаў, бо асваенне гэтых тэрыторый праходзіла ўжо ў 50–60 гады XX стагоддзя.

Літаральна на нашых вачах знікаюць з паверхні зямлі ў межах горада рэшткі далін ручаёў, якія калісьці сілкавалі сваімі водамі раку Уша. Падобнае можна было назіраць у верасні на ўскраіне будаўнічай пляцоўкі Дома культуры. А многія з ручаёў, што захаваліся, фактычна ператвораныя ў каналізацыю адкрытага тыпу і ўяўляюць сабой зону экалагічнага бедства.

Найбольш блізкімі да прыродных з'яўляюцца краявіды гарадскога парку Перамогі і іншыя скверы і зялёныя насаджэнні ў межах горада. Яны маюць нават сваю фауну. Галоўным чынам, гэта птушкі, што тут гняздуюць і для якіх ва ўмовах лесапарку ўтвараюцца прыдатныя ўмовы. Але навокал тут асяроддзе цалкам штучнае, сфарміраванае пад уплывам чалавека.

Усе краявіды горада звязаныя паміж сабой складанымі сувязямі. І чым большая разнастайнасць краявідаў у межах горада, тым больш гэтых сувязяў і тым лепшыя і больш камфортныя ў ім умовы для пражывання чалавека. А лесапаркавыя і лугава-паркавыя краявіды Маладзечна служаць не толькі для адпачынку чалавека, але выконваюць і вялікую экалагічную ролю. Ад іх залежыць камфортнасць нашага пражывання як з эстэтычнага, так і з пункту гледжання здароўя кожнага жыхара.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ,**
**студэнт 5 курса геафака БДУ,**
**сапраўдны член**
**Беларускага геаграфічнага таварыства.**



Фота Ігара МАРОЗА.

**Вілейка, 9 снежня. У акцыі «Хочам ведаць праўду» удзельнічала звыш за 30 чалавек.**

# Пікет у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. 9 снежня у многіх гарадах Беларусі прайшлі пікеты – "ланцугі неабыякавых", дзе грамадзяне трымалі ў руках партрэты зніклых у апошнія часы вядомых людзей. Такая акцыя была праведзеная і ў Вілейцы ў гарадскім парку паблізу рэчавага рынку.**

У акцыі прынялі ўдзел 32 чалавекі. Па сведчанні ўдзельніка пікета віляйчаніна **Уладзіміра Малярчука**, міліцыянеры, якія іх чакалі, сфатаграфавалі ўсіх людзей з партрэтамі. А 12 гадзіне гараджане, што стаялі ў ланцужку, разышліся. Пасля правядзення пікета ў аддзеле ўнутраных спраў быў дапытаны адзін з удзельнікаў – настаўнік **Аляксей Сюдак**.

Сёння а 10-й гадзіне раніцы ў раённым судзе будзе разглядацца справа ўдзельнікаў няздзельнай акцыі Уладзіміра Малярчука і Аляксея Сюдака.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# У Смаргоні баяцца незалежных газет

**11 снежня Гродзенскі абласны гаспадарчы суд адмовіў у іску да Смаргонскага райвыканкома заснавальніку «Новой газеты Сморгони» Рамуальду Улану. Райвыканком не даў яму згоды на размяшчэнне ў горадзе яшчэ дзвюх газет. У эфіры "Радыё Рацыя" 12 снежня прагучаў матэрыял гродзенскага карэспандэнта Міхала КАРНЕВІЧА аб гэтым.**

Падставай для адмовы суду паслужыла тое, што рашэнне аб адмове прымалася асабіста старшынёй райвыканкома **Станіславам Юргелем**, а не на пасяджэнні райвыканкома, як гэта павінна быць згодна з заканадаўствам.

Смаргонскія ўлады з ліпеня 2001 года не даюць сп. Улану дазволу на размяшчэнне ў Смаргоні двух новых перыядычных выданняў – «Новой газеты Островца» і «Новой газеты Ошмян». На імя сп. Улана зарэгістраваная «Новая газета Сморгони», наклад якой сёння тройчы перавышае наклад афіцыйнай раённай газеты. Меркавалася, што часова новыя выданні будуць рабіцца на базе «Новой газеты Сморгони» з удзелам ашмянскіх ды астравецкіх журналістаў.

Аднак у прыватных гутарках са сп. Уланам мясцовыя чыноўнікі зазначылі, што і з існуючай газетай яны маюць шмат клопату. А таму мець яшчэ адзін галаўны боль з новымі яны не хочуць. Толькі пасля неаднаразовых зваротаў выдаўцу была ўручаная афіцыйная папера за подпісам старшыні Смаргонскага райвыканкома Станіслава Юргеля, дзе размяшчэнне ў горадзе новых выданняў кваліфікуецца як немэтазгоднае.

Сп. Улану рэкамэндавана звярнуцца ў тыя райвыканкомы, на тэрыторыі якіх мяркуецца распаўсюджваць выданні. Аднак кіраўніцтва Ашмяншчыны і Астравеччыны таксама адмовіла сп. Улану. Аргументацыя тая самая: немэтазгодна. Маўляў, мясцовае насельніцтва атрымлівае дастаткова інфармацыі з афіцыйных газетаў.

Скарга сп. Улана ў аблвыканком не дала станоўчага выніку. Урэшце, выдавец звярнуўся са скаргай на Смаргонскі райвыканком у абласны гаспадарчы суд. У судзе высветлілася, што адмовіць выдаўцу можна было толькі на падставе рашэння райвыканкома. Усцешыла сп. Улана толькі тое, што судовыя выдаткі яму будуць кампенсаваныя Смаргонскім райвыканкомам рашэння якога яму цяпер давядзецца чакаць.

# Мядзведжая «акадэмія»

**Назва "Смаргонь" у многіх нашых землякоў раней асацыіравалася са славай сярэдневяковай радзівілаўскай мядзведжай акадэміі. Больш падрабязныя звесткі пра яе і пра мастацтва дрэсіроўкі мядзведзяў я адшукала ў працы польскага даследчыка Р. Керсноўскага. Яна называецца "Мядзведзі і людзі ў старадаўнія і новыя часы". Прапаную пазнаёміцца з некаторымі яе старонкамі.**

Разнастайныя ўменні мядзведзяў, якія прыносілі прыбытак іх уладальнікам або весялілі шырокія колы гледачоў, патрабавалі адпаведнага муштравання гэтых жывёл спецыялістамі ў сем'ях або ў спецыяльных цэнтрах. Трэба думаць, што такія цэнтры існавалі і ў старажытнасці, і ў сярэднія стагоддзі, але канкрэтныя звесткі пра мядзведжыя школы адносяцца толькі да новага часу.

Асноўным прадметам дрэсіроўкі мядзведзяў з'яўляўся танец, які іншы раз лічыўся прыроджаный здольнасцю.

Наогул, танец дрэсіраваных мядзведзяў цэніцца невысока, служачы, як у прымаўцы, узорам нязграбнасці. Але сустракаецца і захапленне спрытнасцю гэтых звяроў.

Заснаванне акадэміі звязваюць з асобай **Караля Радзівіла Пане Каханку**, які нібы асадзіў тут цыганаў і даручыў ім арганізаваць школу дрэсіроўкі мядзведзяў. Аднак у сапраўднасці гэтая школа існавала раней, а ў часы Караля Радзівіла толькі была перабудаваная і пашыраная.

У рэарганізаванай акадэміі былі ўзведзеныя спецыяльныя пабудовы і манежы для навучання, хаця падобныя прыстасаванні існавалі і раней. Аднак найбольш дакладныя звесткі пра іх паходзяць толькі з пачатку XIX стагоддзя. У снежні 1812 года ў Смаргонях у час адступлення з-пад Масквы начаваў афіцэр польскіх войскаў **Генрых Брандт**, які ў сваіх мемуарах прысвяціў гэтай акадэміі некалькі абзацаў. "У прасторным пакоі, – піша ён, – робяць загарадку ў форме круга са сценамі дастаткова высокімі, каб мядзведзь не мог праз іх пералезці, і тоўстымі, каб не здолеў іх разбурыць. Падлога зробленая такім чынам, што яе можна награваць. Тады туды ўводзяць маладога мядзведзя ў драўляных сандалях на задніх лапах, і, натуральна, распаленая падлога пячэ яму падэшвы пярэдніх лап. Мядзведзь падымае пярэднія лапы ўверх і спрабуе абаперціся імі аб сцяну, але яго адганяюць біццём. І робяць гэта да той пары, пакуль жывёла не навучыцца стаяць прама на дзвюх лапах, хадзіць і выконваць па загадзе іншыя штукі. У некаторыя моманты мядзведзь губляе цярпенне і прадпрымае шалёную атаку на "кафедру" настаўніка, але яго сустракаюць там кіем і прымушаюць адумацца. Як толькі мядзведзь навучыцца стаяць і хадзіць, яму заводзяць у нос кольца, як падрыхтоўку да вышэйшага курсу, гэта значыць, да навукі танца пад гукі бубна і пішчалкі, а пасля заканчэння адукацыі звер адпраўляецца ў падарожжа па Еўропе ў суправаджэнні аднаго з настаўнікаў".

У перыяд росквіту школы ў Смаргонях дрэсіравалі адначасова больш за 10 мядзведзяў, а таксама пэўную колькасць малпаў. Іх купляў і прысылаў князь, мядзведзяў пастаўлялі бліжнія лясы. Яны паходзілі з недалёкай Жупранскай пушчы і, несумненна, з іншых радзівілаўскіх пушчаў, асабліва, Налібоцкай. На навучанне прымалі маладых мядзведзікаў, толькі самцоў. Паводле традыцыі, занатаванай у 1866 годзе на падставе выказванняў даўніх сведкаў, навучанне ў Смаргонях цягнулася шэсць год, але тут, несумненна, маюцца на ўвазе трэніроўкі, якія праводзіліся пасля вяртання мядзведнікаў на зімовую лёжку. Яны сыходзіліся, самае позняе, на дзень Усіх Святых, і тады мядзведзям у іх памяшканнях ладзіліся лежбішчы з лісцяў і яловых лапак, у якіх яны заставаліся да сярэдзіны лютага. Відаць, у школе не дазваляўся больш працяглы сон. Разам з асеннім вяртаннем, у Смаргоні наступала таксама выплата мядзведнікам іх заработку, а дакладней кажучы, збіранне з іх устаноўленых "баронам" выплат на ўтрыманне акадэміі або адшкадавання за страту мядзведзя ці малпы. Такім чынам, гэтая ўстанова была самастойная з фінансавага боку.

Апрача ўласных выканаўцаў, на навучанне прымаліся мядзведзі ад пабочных асоб, ва ўсякім выпадку, пасля таго, як Смаргоні выйшлі з рук Радзівілаў. **Яўстафій Тышкевіч** сцвярджае, што "той, хто аддаваў туды мядзведзя на навучанне, звычайна дамаўляўся аб стале, памяшканні і гувернёры для яго", і гэтак жа зрабіў у час таго наведвання Смаргоняў бацька аўтара, які хацеў адукаваць мядзведзіка, злоўленага ў яго землях у Лагойскай пушчы.

Акадэмія не праіснавала пазней за паўстанне 1831 года і канфіскацыю смаргонскіх земляў рускімі. Затое куды больш трывалая была слава гэтай акадэміі, якая працягвала расці яшчэ і ў наступныя дзесяцігоддзі.

Нямецкая энцыклапедыя, выдадзеная ў 1840 годзе, называе Смаргоні галоўным цэнтрам дрэсіроўкі мядзведзяў. Іншыя аўтары паведамляюць, што ў Смаргоні мядзведзяў навучалі пантаміме, у тым ліку, такім нумарам, калі адзін аднаго вазіў у дзіцячым вазку, а ў іншым выпадку мядзведзі танцавалі адзін з адным, як закаханая пара, і што перад допускам на продаж або вандроўку па свеце адпаведная камісія спецыялістаў праводзіла для іх суровы экзамен. Але сустракаліся і звесткі цалкам памылковыя, якія тычыліся асабліва пачатку існавання акадэміі, а таксама меркаванні непрыязныя, якія расцэньвалі задуму яе стварэння як "спекуляцыю, годную адных толькі італьянцаў і немцаў".

З цягам часу традыцыя акадэміі пачала ператварацца ў легенду. У другой палове XIX стагоддзя ўжо расказвалі, што адзін з аддадзеных у Смаргоні мядзведзяў быў так прывязаны да сваёй школы, што сам вярнуўся ў яе з адлегласці васьмі гадзін ходу, "каб скончыць сваё навучанне вышэйшаму мастацтву танца". Расказвалі пра трагічныя сустрэчы на паляванні, калі смаргонскі выхаванец прыязна бег да паляўнічага.

Існавала і другая плынь, менш добразычлівая да выхаванцаў смаргонскай школы. Ужо ў XVIII стагоддзі з'яўляюцца жарты і прымаўкі, якія служылі для адмоўнай характарыстыкі асобных людзей, якіх параўноўвалі з выхаванцамі акадэміі. Тады менавіта прыжыўся выраз "смаргонскі гусь", што азначала "адукаваны ў смаргонскай акадэміі, безнадзейны дурань", як гэта тлумачыць каля 1780 года **Юзаф Асалінскі**. "Гэты ліцвін, напэўна, вучыўся ў Смаргонскай акадэміі", – іранічна піша адзін з аўтараў у часопісе "Польскі тэатр". Выраз "смаргонскі акадэмік" праіснаваў значна даўжэй.

Апрача Смаргоняў і Семежава, на Літве існавалі і іншыя, менш вядомыя школы дрэсіроўкі мядзведзяў.

**Падрыхтавала**
**Таццяна КЛЯШЧОНАК.**

# ВІНШАВАНКІ

**Арцёма Боўтуця** віншуем з 8-годдзем! Здароўя, поспехаў у вучобе, верных сяброў. *Тата, мама, сястрычка.*

Дарагая **Віка Бурава**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя і добрых сяброў. *Тата, мама і брацік.*

Мілая мая хросная мама **Аксана Раманаўна**! Віншую з днём нараджэння! Жадаю усяго толькі добрага ў жыцці. *Дачка Віка.*

Віншуем з днём нараджэння **Аксану Раманаўну Марчук**! Жадаем шчасця, кахання, здароўя. *Сям'я Буравых.*

Віншуем дарагога сыночка **Дзіму Апяцёнка** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у вучобе. *Мама, тата, Іра.*

Віншуем з днём нараджэння дарагую **Наталлю Баркоўскую**! Усяго табе самага найлепшага. Мы цябе вельмі любім! *Сям'я Радзевічаў.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Дзяўчына-пчалавод пазнаёміцца з высокім хлопцам пасля 26 год, які вядзе здаровы лад жыцця. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 0039839.

Сімпатычная і практычная, непрадказальная і рамантычная чакае вашыя пісьмы. Мне 34 гады. 222310, Маладзечна-4, п/п III-ВН №549273.

Мужчына, 51/170/70, беларус, жыллём забяспечаны, шукае жонку. Маладзечна-6, п/п МС 0367626.

Інвалід II гр, 32 гады, пазнаёміцца з дзяўчынай свайго ўзросту для стварэння сям'і. Маладзечна-7, п/п МС 0487030.

Жанчына прыемнай знешнасці, 49/160/70, пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-6, п/п МС0171772.

Адзінокая жанчына 55 год пазнаёміцца з мужчынам разумнага ўзросту. Маладзечна-4, п/п МС0230175.

Мужчына 46/175/80, в/а, пазнаёміцца з жанчынай для сустрэч і сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-7, п/п МС0191340.

Спартыўны малады чалавек пазнаёміцца з жанчынай да 27 год для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 24/176/68, без жыллёвых праблем, са шк/зв. Маладзечна-7, п/п МС0629214.

Невысокая стройная жанчына (31 год, з в/а, без шк/зв.) шукае дастойнага спадарожніка жыцця. Маладзечна, галоўпаштамт, п/п МС0612629.

■ КОНКУРС

# Шашкі

Пазіцыя, прапанаваная для самастойнага рашэння ў папярэднім шашачным выпуску, выклікала ў чытачоў вялікую цікавасць. Некаторыя з іх даказвалі, што яна не рашаецца. Нават дасведчаныя гульцы, праўда, з "ліста", не расстаўляючы шашак, не маглі адразу знайсці развязку камбінацыі. Рашэнне яе пры такой колькасці матэрыялу не вельмі складанае, але нечаканае і арыгінальнае. Да мэты вядзе 1. fg5 f:h4 2. ed2!! Парадаксальны, на першы погляд, ход! Цяпер чорныя пойдуць на c1, і тады белыя простыя акажуцца безабароннымі пад прастрэльным ударам дзвюх чорных дамак. Тут і нічыю не зробіш.

Але тым эфектней выглядае задума белых 2... bc1 3. f2–e3! h:d4 4. dc3 d:b2 5. fh6. Нягледзячы на тое, што ў чорных дзве дамкі і дзве простыя, яны капітулююць супраць адзінокай дамкі белых з даволі пікантным фіналам 5... cg5 6. h:ctx.

Аўтар камбінацыі – неаднаразовы і непераможны чэмпіён СССР **Васіль Сокаў**. Загінуў у 1944 годзе пры прарыве блакады Ленінграда.

Выйгрыш з запіраннем шашак заўсёды лічыўся прэстыжным. Пазней такі прыём вылучаецца у самастойны від кампазіцыі – шашачную задачу, дзе ад белых патрабуецца выйгрыш з запіраннем указанай колькасці шашак вызначанай якасці.

Задача лічыцца мастацкім творам толькі ў выпадку, калі выконваюцца тры галоўныя і абавязковыя патрабаванні: варыянтнасць, эканамічнасць і адзінасць рашэння. Скласці шашачную задачу – справа нялёгкая. Першая двухфінальная задача была складзеная ў 1891 годзе. Праз чатыры гады здольны **Аляксандр Шошын** ўпершыню прапанаваў трохфінальную. Ажыццяўленне чатырох фіналаў доўга нікому не ўдавалася. Толькі ў 1926 годзе гэта змог зрабіць таленавіты майстар **Аляксандр Кулічыхін**.

На гэтым пошукі далейшага павелічэння колькасці варыянтаў спыніліся, бо лічылася, што пяціварыянтная задача на 64-клетачнай дошцы з-за яе абмежаванасці немагчымая.

І вось у 1983 годзе з'явілася сапраўдная сенсацыя, дастойная кнігі рэкордаў Гінеса. Пасля 15 год пастаяннага карпатлівага пошуку і творчай працы яе стварыў мінскі аматар **Пётр Шулеў**. За гэты шэдэўр яму заслужана прысвоілі званні чэмпіёна СССР і майстра спорту. На вялікі жаль, яго хутка не стала. Цяжкая хвароба абарвала жыццё здольнага шашачнага кампазітара ў самым росквіце яго таленту. Думаецца, што падобную прыгажосць, створаную П. Шулевым, больш паўтарыць ужо немагчыма. Прывесці гэтую задачу, дзе простая чорных запіраецца ў розных варыянтах на палях a3, a5, h2, h4, h6 і рашэнні, часам, дасягаюць 18 ходаў, не ўяўляецца тут магчымым з-за груваскасці.

Для самастойнага рашэння прапануецца задача-мініяцюра з незвычайнымі фіналамі А. Шошына, надрукаваная ў часопісе "Шахматное обозрение" за 1902 год.




Белыя пачынаюць і запіраюць 2 простыя чорных. Творчых поспехаў вам, аматары шашак!

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

У мінулы раз прапанавалася адгадаць, навошта ўсіх візіцёраў да мангольскага хана прымушалі праходзіць паміж двума вогнішчамі.

Правільны адказ – каб яны ачысціліся ад варожых намераў, а іхнія падарункі ад усемагчымых закляццяў. Правільны адказ дала **Алена Квяткевіч**, якую і запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно.

**НАСТУПНАЕ ПЫТАННЕ.** Часам маракі сустракаюць каля берагоў Антарктыды чорныя айсбергі. Чаму яны чорнага колеру?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 19 снежня, 17-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў малдзечанскім кінатэатры "Радзіма").

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»



**Снежань**

**Вялікая зала**

14–16 **"Падзямелле драконаў"**, прэм'ера, ЗША, прыгоды 15-00
**"Гладыятар"**, ЗША, 2 серыі 17-30, 20-20

17 **"Давай пажэнімся"**, "Беларусфільм" 13-00

17–23 **"Сёстры"**, Расія 15-00, 19-00
**"Што хавае мінулае"**, ЗША-Канада, дэтэктыў на відэасістэме 17-00, 21-00

**Для дзяцей**

16 – **"Прыгоды Рокі і Булвінкля"** 13-00

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Ты таксама гавары

Мой сябра – генеральны дырэктар фірмы. Вялізны тоўсты мужчына. Канец рабочага дня. Вадзіцель вязе яго дадому. Пасажыр п'е піва.

Вадзіцель бачыць, што ў шэфа добры настрой, вырашае падступіцца з вечным пытаннем пра павышэнне зарплаты:

– Міхаіл Барысавіч!

– Мгу!..

– А вось я з мужыкамі з таксапарка размаўляў...

– Мгу!..

– Дык вось яны гавораць, што па дзвесце тысяч атрымліваюць.

Паўза.

Глыток піва з бутэлькі.

– Ну і што? Ты таксама гавары!

Больш вадзіцель пытанняў не задаваў.



# Як закалялася сталь

Расказаў знаёмы:

– Сяджу на скрыжаванні, мне пад стрэлку налева, раніца, усе вельмі спяшаюцца на работу. Наперадзе маячыць даішнік, худзенькі такі, маладзенькі, шапка целяпаецца. Адзенне на ім сшытае яўна для "нармальных" даішнікаў: тоўстых, з вялікімі рэпамі, больш звыклых для нас. Назіраю за ім, мне зялёны не скора. Відаць, што яго першы раз паставілі на пост, нясмелы ўвесь такі, сутуліцца, палку далі, навучылі, што гаварыць. Стаіць ён, пра сябе ролю вучыць, успамінае, як прадстаўляцца і нумары артыкулаў, палка пры кожнай ўнутранай фразе ўздрыгвае, сам сябе пераконвае, што ён правы, рыхтуецца "спыніць парушальніка", магчыма, першы раз у жыцці.

І вось загараецца зялёны, для тых, хто едзе прама. Мерседэс ірве з-пад сябе асфальт, і з рада "рад стрэлку" едзе прама. Даішнік робіць глыбокі ўдых, робіць крок насустрач і рашуча працягвае да машыны палку, патрабуючы спыніцца. Мерседэс абдае яго пырскамі і, відаць, не заўважыўшы (або не ідэнтыфікуючы такога маламерка са звыклымі даішнікамі), ірве далей. Даішнік сарамліва апускае галаву, косіць вокам на нас (ці не заўважыў хто), апускае палку і, быццам бы ён проста ёю памахваў, ціхенька адыходзіць на свой пост, апусціўшы вочы.

**Сямён БОНДАР.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Салата яечная на кружочках кілбасы

**300 г кілбасы, 2–3 яйкі, звараныя крута, 1 лыжка надзертага хрэну, па 1 лыжцы смятаны, маянэзу, марынаваны перац або памідор, соль, перац.**

Яйкі расціснуць відэльцам, перамяшаць з хрэнам, смятанай, дадаць соль, перац на смак. Атрымаецца густая маса. Тоўстую вараную кілбасу нарэзаць кружочкамі таўшчынёй 0,5 см. На кожны кружочак пакласці горкай яечную салату, упрыгожыць кавалачкам марынаванага перцу ці памідора.

# «Горка» тварожная

**1 пачак пясочнага пячэння, 500 г тварагу, 100 г цукру, 100 г смятаны, 50 г здробненых арэхаў, 50 г разынак, ванілін, вішнёвае варэнне.**

Пячэнне пакрышыць, спырснуць малаком або смятанай для мяккасці. Тварог расцерці з цукрам, ванілінам, смятанай, перамяшаць з пячэннем, арэхамі, памытымі разынкамі, выкласці горкай на шкляное блюда, упрыгожыць вішнямі з варэння, паліць варэннем.

■ ІМЯНІНЫ

**14 снежня**
**Праваслаўныя**: Навума.
**Каталіцкія**: Альфрэда, Ізыдара, Яна.

**15 снежня**
**Праваслаўныя**: Авакума, Андрэя, Антона, Апанаса, Івана, Феафіла.
**Каталіцкія**: Марыі, Цэліны, Валяр'яна.

**16 снежня**
**Праваслаўныя**: Івана, Савы, Сафрона, Фёдара.
**Каталіцкія**: Аліцыі, Альбіны, Эўзебіюша.

**17 снежня**
**Праваслаўныя**: Варвары, Ульяны.
**Каталіцкія**: Алімпіі, Яна.

**18 снежня**
**Праваслаўныя**: Гурыя, Захара.
**Каталіцкія**: Багуслава.

**19 снежня**
**Праваслаўныя**: Мікалая.
**Каталіцкія**: Дарыуша, Урбана.

**20 снежня**
**Праваслаўныя**: Амбросія, Івана, Ніла, Паўла.
**Каталіцкія**: Багумілы, Дамініка, Тэафіла, Яўгена.



■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

- Нельга пераадолець бездань за два скачкі.
- Вырашэннем усякай праблемы будзе новая праблема.
- Выхад з бязвыхаднага становішча там, дзе ты ў яго ўвайшоў.
- Калі ты добры, то будзь сабой, калі не – то кім-небудзь іншым.
- Ніколі не бывае так дрэнна, каб не магло стаць яшчэ горш.
- Калі нельга, але вельмі хочацца, то можна.
- Самага неабходнага ў дадзены момант заўсёды не знойдзеш.
- У жыцці магчымыя толькі дзве трагедыі: першая – не ажыццявіць сваю запаветную мару, другая – дабіцца, каб яна ажыццявілася.
- Пачуццё гумару – гэта тое, што прымушае смяяцца з чагосьці, што адбылося з некім іншым, але прывяло б вас у лютасць, калі б гэта адбылося з вамі.
- Лягчэй падавіць у сабе першае жаданне, чым задаволіць усе наступныя.
- Зорка – гэта чалавек, якога ведаюць многія з тых, каго ён, на шчасце, не ведае.
- Калі двое заўсёды згодныя адзін з адным, то адзін з іх лішні.
- Бясконцасць – гэта месца, дзе адбываецца тое, што не бывае.
- Чыноўнік – гэта паўправаднік, які валодае неабмежаванай праводнасцю зверху ўніз і высокім супраціўленнем у адваротным напрамку.
- Паэзія – гэта тое, што застаецца ад нас пасля таго, як забытыя словы.
- Любыя прапановы людзі разумеюць інакш, чым той, хто іх прапаноўвае.
- Хто не падаў, той не ўзнімаўся.
- Начальнік – гэта чалавек, які прыходзіць на работу своечасова ў той дзень, калі вы спазняецеся і спазняецца ў тыя дні, калі вы праходзіце своечасова.
- Нуль – гэта дзесятка пасля скарачэння штатаў.
- Стрэс – гэта не тое, што з вамі здарылася, а тое, як вы гэта ўспрымаеце.
- Калі вам здраджвае памяць, радуйцеся, што не жонка.
- Лепшы спосаб зразумець – дадумацца самому.
- Мемуары – гэта кніга пра жыццё, якое хацеў бы пражыць аўтар.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Гаспадыня дома гаворыць гасцям, якія ніяк не могуць разыйсціся:

– Мне толькі патэлефанавалі і сказалі, што ў некага з вас дома пажар. Я толькі не разабрала, у каго.

– Ведаеце, доктар, той курс лячэння, што вы мне прызначылі летась, дапамог.

– Ну што я магу сказаць? Бывае...

Двое ўрачоў:

– Як у вас мой былы пацыент?

– На жаль, ён памер...

– Ага, будзе цяпер ведаць, як звяртацца да іншага ўрача!

